 

наша
# свабода

№28 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

2 ЧЭРВЕНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## Планы перамяніліся – «дыялог» уладзе па душы

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**«У нас нараджаецца новы сацыяльны інстытут. Грамадства набывае цывілізаваны інструмент дасягнення згоды і стабільнасці...» Такую заяву зрабіў А.Лукашэнка падчас сустрэчы з прадстаўнікамі «грамадска-палітычнага дыялога» ў мінулы аўторак.**



«Новы сацыяльны інстытут» – гэта сам «дыялог». Трэба разумець, А.Лукашэнку спадабалася ягоная праца, і было вырашана захаваць яго надалей. Нагадаем, што 18 траўня падчас сустрэчы з парламентарыямі Беларусі і Расіі А.Лукашэнка заявіў пра хуткае заканчэнне дыялога. Курс хутка змяніўся – ягоныя арганізатары ўжо кажуць пра заканчэнне толькі «першага этапу».

Прадстаўнікі 110 арганізацыяў, што ніколі не мелі асаблівых прэтэнзіяў да рэжыму А.Лукашэнкі, збіраліся на працягу двух месяцаў, нешта нібыта вырашалі, песціліся пад сафітамі тэлевізійных камераў БТ.

Вынік – больш чым сціплы. Замест абяцаных больш чым 55 папраўак у Выбарчы кодэкс (праўда, большая частка з іх адстойвае выключна інтарэсы грамадскіх арганізацыяў) А.Лукашэнку было прапанавана да разгляду толькі 16. Болей таго, А.Лукашэнка адразу папярэдзіў удзельнікаў дыялога, што не ўсе 16 папраўак будуць прынятыя парламентам. Такім чынам, усе прапановы дыялога мусяць прайсці праз парламенцкае і прэзідэнцкае «сіта». Трэба разумець, што ніводная з прапановаў, якая не спадабаецца А.Лукашэнку, не будзе прынятая ў якасці папраўкі.

Чым запомніўся дыялог? Неверагоднай прагай ягоных удзельнікаў да ўлады. Як ім падабалася нешта вырашаць – нібыта на дзяржаўным узроўні! Дыскутаваць, палемізаваць, рабіць гучныя заявы – у спадзяванні, што іх заўважаць, адзначаць і забяруць наверх, да сябе. Неўзабаве пачнуцца парламенцкія выбары, і практычна кожны ў зале паседжанняў дыялога марыць пра цёпленькае дэпутацкае месцейка. Тым больш, што з гэтай восені парламент будзе працаваць на прафесійнай аснове. Кожны дэпутат будзе шчаслівы атрымоўваць міністэрскі заробак. Але не ў кожнага «дыялаганта» будзе магчымасць увайсці ў парламент – на ўсіх не хопіць месцаў. Прызавуць самых адданых.

Парадокс у тым, што, згодна з беларускім заканадаўствам, грамадскія аб'яднанні не маюць права займацца палітыкай. Тым не менш, усе гэтыя людзі вельмі прагнуць грамадскага прызнання. Таму іхнія выступы падчас дыялога мелі вельмі малое дачыненне да той праблемы, дзеля якой усе яны, уласна кажучы, і сабраліся – да ўдасканалення Выбарчага кодэкса. Трыбуна дыялога выкарыстоўвалася яго ўдзельнікамі з мэтай напрамую паразмаўляць з А.Лукашэнкам.

Цікава, што і А.Лукашэнка выкарыстаў нагоду дыялога, каб давесці да публікі зусім іншыя праблемы. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

## Пракуратура скардзіцца, што Чыгіру «далі мала»

### Жарсці вакол экс-прэм'ера працягваюцца

Алесь ПАЎЛОВІЧ

Адразу тры навіны прыйшлі ад сям'і экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра. Першая – гарадская пракуратура заявіла пратэст на прысуд, што быў вынесены Міхаілу Чыгіру гарадской калегіяй суддзяў на чале з Аляксандрам Васілевічам. Пракуратура нязгодная з тым, што суддзі апраўдалі Чыгіра па ўсіх акрамя аднаго эпізодаў абвінавачвання і пакінулі яго на волі. Нагадаем, пракуратура прасіла суд даць Чыгіру пяць гадоў турмы і цяпер настойвае на пераглядзе справы. Другая навіна тычыцца падзеяў 19 траўня, калі быў вынесены прысуд экс-прэм'еру. Тады на ганку суда жонка Чыгіра Юлія Станіславаўна, абараняючыся ад схапіўшага яе міліцыянта, укусіла яго за вуха. Паводле звестак з пракуратуры Фрунзенскага раёна Мінска, супраць Юліі Чыгір узбуджаная справа, яна падазраецца ў аказанні супраціўлення міліцыі. Між тым Юлія Чыгір сама пацярпела ад міліцыянта, аб чым сведчыў велізарны сіняк на яе руцэ. Аднак лёс яе скаргі пакуль не вызначаны. Старшы следчы Фрунзенскай пракуратуры Дзмітрый Шкарупа, якому даручана гэтае расследаванне, сказаў, што «ў межах справы супраць Чыгір правяраецца і яе заява». Цікава, што следчы адмовіўся назваць прозвішча міліцыянта, якога пакусала жонка экс-прэм'ера.

І апошняя з навінаў – невядомыя злодзеі забраліся ў дом, дзе жылі бацькі Міхаіла Чыгіра. Гэта на ўскраіне вёскі Усава Капыльскага раёна, дзе знаходзіцца славутая пасека Чыгіра. Гэта не першае наведванне злодзеяў у зачынены дом, але гэты візіт здзівіў як ніякі. Хата была адчыненая ключом і ўсе рэчы былі, як кажуць, «пращмананыя». Зніклі тры мяхі цукру, назапашанага для падкормкі пчолаў, і яшчэ некаторыя рэчы. Міхаіл Чыгір напісаў у міліцыю заяву, але ён не ўпэўнены, што злодзей будзе знойдзены. «Вельмі ўжо нетрадыцыйныя почырк быў у гэтых рабаўнікоў», – дадаў экс-прэм'ер. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **Неўзабаве Беларусь чакае яшчэ адзін прэзідэнцкі візіт.** 28-29 чэрвеня прэзідэнт Малдовы Пётр Лучынскі прыбудзе ў Мінск з афіцыйным візітам. Пра гэта паведаміў учора прэс-сакратар МЗС Мікалай Барысевіч. Праграма візіту пакуль удакладняецца.

■ **Як нездавальняючую ацаніў якасць будаўніцтва Лядовага палаца фізкультуры і спорту «Магілёў» віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Генадзь Навіцкі.** Наведваючы лядовую арэну, у адкрыцці якой, прызначаным на 10 чэрвеня, збіраецца ўзяць удзел Аляксандр Лукашэнка, Генадзь Навіцкі знайшоў мноства недаробак: ужо абваліўся месцамі тынк, мокрая пасля дажджу столь, няякасная пафарбоўка, брак у аддзелцы раздзявальняў і туалетаў. Паводле словаў Г.Навіцкага, Лядовы палац «Магілёў» пакуль зусім не гатовы да ўрачыстага адкрыцця і эксплуатацыі.

■ **З 1 чэрвеня ўсе прадпрыемствы, якія пры выпуску прадукцыі выкарыстоўваюць сімволіку Брэста, павінны плаціць штогадовы збор у гарадскі бюджэт у памеры 50 мінімальных заробкаў.** Апроч таго, арганізацыя выпуску прадукцыі з сімволікай памежнага горада павінна рабіцца выключна са згоды прэзідыума гарадскога Савета народных дэпутатаў. Такое рашэнне было прынятае на апошняй сесіі гарсавета. З 1 чэрвеня ў Брэсце ўводзіцца шэраг іншых мясцовых падаткаў і збораў для фізічных і юрыдычных асобаў. Фізічным асобам давядзецца плаціць падатак на рэкламу – 5 працэнтаў ад платы за размяшчэнне рэкламы або інфармацыі ў СМІ, а таксама збор на ўтрыманне і развіццё інфраструктуры горада. Дэпутаты мяркуюць, што такімі новаўвядзеннямі змогуць павялічыць даходную частку гарадскога бюджэту, які напаўняецца сёлета вельмі цяжка.

■ **Днямі дыпламатычны склад ізраільскай амбасады ў Беларусі вярнуўся ў Мінск.** Нагадаем, што 17-18 траўня ўвесь дыпламатычны склад амбасады раптоўна адбыў на радзіму, як было заяўлена, «па тэхнічных прычынах». Іх ад'езд многія напрамую звязалі з чуткамі аб пагаршэнні радыяцыйнай сітуацыі ў Мінску. Як тлумачыць прэс-служба амбасады Ізраіля, ад'езд дыпламатаў быў выкліканы «неабходнасцю правядзення медыцынскага абследавання з-за нявызначанасці з радыяцыйнай сітуацыяй, што склалася на той час». Цяпер усе супрацоўнікі амбасады вярнуліся ў Мінск, і дыпламатычнае прадстаўніцтва працуе ў звычайным рэжыме.

## НАДВОР'Е




Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

970



 

 



## Амбасада сачыла за апазіцыяй

Аляксей СТАЎСКІ

Прэс-канферэнцыя па выніках візіту беларускай апазіцыйнай дэлегацыі ў ЗША прайшла на Управе БНФ.

Нагадаем, што з 16 па 28 траўня старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі А.Лябедзька, старшыня БНФ В. Вячорка, прадстаўнік грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя'97» З.Бандарэнка і галоўны рэдактар НАШАЙ СВАБОДЫ П. Жук знаходзіліся ў Злучаных Штатах па запрашэнні амерыканскага боку. В.Вячорка яшчэ не паспеў вярнуцца, астатнія ўдзельнікі паездкі прысутнічалі на прэс-канферэнцыі.

Журналістаў цікавіла, як апазіцыянеры могуць пракаментаваць заявы А.Лукашэнкі наконт візіту апазіцыі за акіян, а таксама які вынік прынясе гэтае падарожжа. А.Лябедзька назваў гэтую рэакцыю Лукашэнкі істэрыкай, звязанай з адчуваннем таго, што крэсла пад ім рэальна захісталася. А наступствы візіту, па словах А.Лябедзькі, могуць быць самыя розныя. Як тое, што А.Лукашэнка нарэшце пойдзе на нейкія саступкі, – так і ўзмацненне рэпрэсіяў супраць апазіцыі.

Цікава, што, па словах апазіцыянераў, супрацоўнікі беларускай амбасады ў ЗША натуральна сачылі за імі і нават спрабавалі зняць іх на відэакамеру ў цягніку.

Уздымалася на прэс-канферэнцыі і пытанне пра грошы, якія старшыня камісіі па замежных справах Сената ЗША Джэсі Хелмс абяцаў выдзеліць Беларусі на падтрымку дэмакратычных працэсаў. Па словах З.Бандарэнкі, калі гэтыя грошы будуць выдзеленыя, ніхто не будзе супраць – акрамя А.Лукашэнкі ды ягонага атачэння.

Спадзяванні на тое, што еўрапейскія органы кіравання ў хуткім часе пачнуць ставіцца да Беларусі больш жорстка, прагучалі з вуснаў амаль усіх выступоўцаў. ■

*Працяг тэмы ў інтэрв'ю З.Бандарэнкі на стар. 3*

## Беларусь не хацела скандалу

Рыгор БУЯН

У Вільнюсе Ліга Свабоды Літвы правяла мітынгі каля беларускай амбасады ў знак пратэсту супраць прызначэння намеснікам міністра абароны Беларусі генерал-лейтэнанта Уладзіміра Усхопчыка. Літоўцы пратэставалі супраць таго, што чалавек, які падазраецца праваахоўнымі органамі ў «наўмысным забойстве з прымяненнем агнястрэльнай зброі» і «нанясенні цяжкіх цялесных пашкоджанняў», заняў такую высокую пасаду ў суседняй дзяржаве.

У 1991 годзе У.Усхопчык камандаваў дыслацыраванай у Вільнюсе дывізіяй савецкай арміі, танкі якой у ноч на 13 студзеня 1991 года спрабавалі падавіць выступленне літоўцаў за незалежнасць. Тады 13 чалавек загінулі, каля ста чалавек моцна пацярпелі. «Прызначэнне генерала У.Усхопчыка на такую высокую пасаду гаворыць за тое, што над палітычным небам Літвы навісла велізарная небяспека для яе свабоды і незалежнасці», – заявіў лідэр Лігі Свабоды Антанас Терляцкас.



Фота С.ГРЫЦА/архіў

● Літва. 1991 год. Савецкія салдаты каля Вільнюскага тэлецэнтра падчас крывавых сутычак з дэманстрантамі

У адказ на масавыя выступленні ўпершыню прагучала ацэнка афіцыйнага Мінска на скандал, які ўспыхнуў паміж Беларуссю і Літвой. Прэс-сакратар беларускага МЗС Мікалай Барысевіч заявіў: «Прызначэнне генерала Усхопчыка на пасаду намесніка міністра абароны – і гэта мы тлумачылі літоўцам – не накіраванае на пагаршэнне двухбаковых стасункаў, якія апошнім часам развіваліся досыць інтэнсіўна і на карысць абодвум бакам. Тым больш, што У.Усхопчык будзе займацца тэхнічнымі пытаннямі».

У 1992 і 1994 гадах Літва патрабавала ад беларускіх уладаў выдачы У.Усхопчыка, але афіцыйны Мінск адмовіўся выдаць генерала. На пытанне, ці не патрабаваў літоўскі бок выдачы Уладзіміра Усхопчыка гэтым разам, прэс-сакратар МЗС адказаў: «Не. Ва ўсякім разе, такая інфармацыя праз мяне не праходзіла». ■

## Кансерватары аб'ядноўваюцца

Алесь ШМЯЛЁЎ

Дэкларацыю аб намеры супрацоўнічаць у пытаннях узмацнення дэмакратыі і сувязяў паміж Польшчай і Беларуссю падпісалі днямі прадстаўнікі партыі БНФ пад кіраўніцтвам Вінцука Вячоркі і польскай Кансерватыўна-народнай партыяй. Гэта першае падпісанне падобных пагадненняў паміж прадстаўнікамі БНФ і партыяй, што прадстаўляе іншую краіну. Кансерватыўна-народная партыя (КНП) уваходзіць у выбарчы блок «Салідарнасць» і з'яўляецца ў Польшчы адной з самых уплывовых на правакансерватыўнай арэне. У канцы чэрвеня польскія сябры БНФ прыедуць з працоўным візітам у Беларусь. ■

## На судзе глядзелі порнакасету

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Вельмі нечакана скончылася адно з паседжанняў Мінскага гарадскога суда па справе Валерыя Шчукіна і Мікалая Статкевіча, якіх абвінавачваюць у арганізацыі беспарадкаў на вуліцах Мінска падчас правядзення летась несанкцыяваных масавых акцыяў.

У якасці экспертызы ў судовай зале шмат разоў праглядалі розныя відэакасеты з запісам дэманстрацыяў і тых самых беспарадкаў, каб вызначыць ролю ў іх В.Шчукіна і М.Статкевіча.

Так было і ў гэты раз, калі нехта збоку абвінаваўцаў здабыў новы відэадоказ. Нечакана пасярэдзіне прагляду запіс шэсця 17 кастрычніка 1999 года змяніўся... звычайнай «парнухай». Няцяжка ўявіць, якое ажыўленне гэта прынесла ў судовы пакой. Спачатку, праўда, у зале наступіла поўная цішыня, бо ніхто не чакаў такога развіцця падзеяў, а затым пачуўся дружны залп смеху ад карціны, як разгублены суддзя Ігар Кот старанна спрабуе выключыць відэамагнітафон пультам з падсеўшымі батарэйкамі...

На наступны ж дзень выступала пракурор, якая запрасіла па артыкуле 186.3 Валерыю Шчукіну паўтара года турмы, але ўмоўна, а Мікалаю Статкевічу – два гады калоніі агульнага рэжыму. Цяпер на працэсе час выступаць адвакатам і грамадскім абаронцам падсудных. ■

## Фонд дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў

Віктар ДУШКАН

25–27 траўня 2000 года ў Беластоку адбылася канферэнцыя «Ад аўтарытарнай дзяржавы да дэмакратычнай», на якой прысутнічалі прадстаўнікі Праваабарончага цэнтра «Вясна». Падчас свайго выступу пра сітуацыю з парушэннямі правоў чалавека ў Беларусі старшыня ПЦ «Вясна» А.Бяляцкі прапанаваў удзельнікам канферэнцыі з польскага боку – прадстаўнікам недзяржаўных грамадскіх арганізацыяў і палітычных партыяў – стварыць у Польшчы «Фонд дапамогі ахвярам палітычных рэпрэсіяў». Гэтая думка была ўхваленая польскімі ўдзельнікамі канферэнцыі. Яны запэўнілі беларусаў, што праца па стварэнні такога фонду пачнецца неадкладна. На рэгіянальным узроўні такія намаганні ўжо рабіліся. Цэнтралізацыя высілкаў і сродкаў разлічаная на актыўную дапамогу ахвярам палітычных рэпрэсіяў на Беларусі. ■

## Пушкіна не пусцілі ў Варшаву

Алесь ІВАНОЎСКІ

Атрымаўшы запрашэнне ад дырэктара Варшаўскага Замка Уяздоўскага (Цэнтра сучаснага мастацтва) Войцэха Крукоўскага на ўдзел у выставе сучаснага мастацтва Беларусі, якая ладзіцца з 30 траўня па 2 ліпеня, паехаць туды мастак і перформер Алесь Пушкін не змог. Справа ў тым, што на афіцыйным выкліку ў Варшаву старшы інспектар выпраўленча-працоўных работ Крупскага раённага аддзела ўнутраных справаў Мінскай вобласці В.Гурко пазначыў наступнае: «23 мая 2000 года Пушкіну А.М. адмоўлена ў выездзе ў Варшаву на выставу. Падстава: асуджаны на два гады з адтэрміноўкай прыгавору. Пашпартна-візавай службай Крупскага РАУС ануляваны дазвол на выезд ва ўсе краіны свету да заканчэння тэрміну прыгавору, інакш кажучы, да 25.11.2001 года». Сам Алесь Пушкін гэты факт пакінуў без каментару.

Нагадаем, што ўмоўны тэрмін Пушкін атрымаў пасля таго, як летась 20 ліпеня, у дзень сканчэння легітымных прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі, арганізаваў перад будынкам па вул.Карла Маркса, 38 адмысловую перформансную акцыю: з тачкай гною, наручнікамі і праткнутым віламі партрэтам першага прэзідэнта Беларусі. ■

## Кіраўніцтва ВС «эмігруе» у Вільнюс

Рыгор БУЯН

Чарговае паседжанне Прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання, запланаванае на 5 чэрвеня, пройдзе ў сталіцы суседняй Літвы – Вільнюсе. Кіраўніцтва парламента ўпершыню збярэцца ў поўным складзе, што раней не ўдавалася з-за вымушанай эміграцыі спікера Сямёна Шарэцкага.

Варта адзначыць, што гэтае паседжанне Прэзідыума ў пэўным сэнсе стане гістарычнай падзеяй. Кіраўніцтва ВС найперш плануе сфарміраваць парадак дня чарговай сесіі парламента, якая хутчэй за ўсё пройдзе ў чэрвені. Выбары ў палату прадстаўнікоў не за гарамі – таму Вярхоўнаму Савету неабходна вызначыцца і сфармуляваць сваю пазіцыю да гэтай кампаніі. Больш за тое, кіраўніцтва ВС абмяркуе палітычную сітуацыю ў Беларусі, а таксама перспектывы краіны па вяртанні на шлях дэмакратычнага развіцця ў святле сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ, якая пройдзе ў ліпені ў Бухарэсце. ■



 

# Зміцер Бандарэнка: «Гэты візіт стаў прарывам!»



Пасля размовы з сенатарамі Д.Макеем і Р.Дурбінам

**Пасля візіту дэлегацыі беларускай апазіцыі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, які выклікаў рэзка негатыўную рэакцыю беларускіх уладаў, НАША СВАБОДА прапануе інтэрв'ю ў каардынатара грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя'97» Зміцера Бандарэнкі – аднаго з удзельнікаў гэтага візіту.**

***– Спадар Зміцер, калі ласка, распавядзіце, як адбываўся візіт.***

– Візіт аб'яднанай беларускай апазіцыі адбыўся па запрашэнні партнёра «Хартыі'97» Міжнароднай Лігі правоў чалавека. Такога ўзроўню сустрэчаў, якія адбыліся ў беларускай дэлегацыі, раней не было. У першую чаргу я б адзначыў сустрэчы са старшынёю камітэта па міжнародных справах Сената ЗША сенатарам Хэлмсам і са старшынёю камітэта па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Кангрэса ЗША Гілманам. Неабходна адзначыць, што ЗША аказваюць дапамогу болей чым ста краінам свету, і роля гэтых камітэтаў у гэтым вызначальная. Напрыклад, нядаўна было прынятае рашэнне аб дапамозе Кітаю на развіццё дэмакратыі ў памеры сто мільёнаў долараў (на падтрымку праектаў па свабодным распаўсюджванні інфармацыі – для радыё, газетаў).

Знакавай таксама стала сустрэча з адным з лідэраў рэспубліканскай партыі, канкурэнтам Дж.Буша на прэзідэнцкіх прайм-выбарах сенатарам Дж.Макейнам, які для Амерыкі легендарная асоба.

***– Якія асноўныя вынікі дасць паездка ў адносінах да Беларусі?***

– Бадай упершыню на самым высокім узроўні Злучанымі Штатамі было заяўлена аб падтрымцы дзейнасці беларускіх дэмакратычных сілаў, аб падтрымцы барацьбы беларускага народа за свабоду і дэмакратыю. У бліжэйшы час Сенат ЗША прыме рэзалюцыю адносна Беларусі, якая ўжо была прынятая раней Палатай прадстаўнікоў Кангрэса. Акрамя таго, і ў Парламенце, і ад прадстаўнікоў выканаўчай улады мы пачулі, што ЗША прызнаюць парламенцкія выбары ў Беларусі свабоднымі і дэмакратычнымі толькі тады, калі будуць выкананыя чатыры ўмовы. Першае, гэта змяненне ў дэмакратычны бок Выбарчага кодэкса. Другое – наданне сапраўднага заканадаўчага статусу парламенту Беларусі, трэцяе – допуск апазіцыі да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. І, нарэшце, паляпшэнне сітуацыі з правамі чалавека, куды ўваходзяць вызваленне палітвязняў, спыненне рэпрэсіяў і пераследу беларускіх грамадзянаў за іх перакананні. У гэтым выпадку парламенцкія выбары будуць прызнаныя сапраўднымі. Часу ў Лукашэнкі, каб даць адказ на гэтае пытанне, фактычна ўжо няма. Але знайшла разуменне нашая прапанова па пераносе выбараў, калі ўлада пойдзе на саступкі.



У кабінеце Збігнева Бжэзінскага

***– Якім чынам вызначаліся пазіцыі прадстаўнікоў дэлегацыі падчас сустрэчаў?***

– Усе нашыя выступы, усе падыходы раней узгадняліся. На паседжаннях Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сілаў была выпрацаваная канцэпцыя нашых выступаў. Мы казалі пра трэці Кангрэс дэмакратычных сілаў, які рыхтуецца ў ліпені, аб выніках «Гарачай Вясны-2000», аб верагодных планах беларускай апазіцыі, аб праблемах у сферы правоў чалавека на Беларусі і рэалізацыі права грамадзянаў краіны на свабоднае атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі.

Хацелася б дадаць, што гэта не першы і не апошні візіт беларускай апазіцыі. Былі паездкі Ю.Хадыкі і С.Багданкевіча, працяглы візіт С.Шарэцкага, паездка С.Шушкевіча і Л.Грузновай. У якасці візіцёраў выступалі беларускія незалежныя журналісты і творчыя асобы: Ю.Хашчавацкі, Л.Міндлін і іншыя. Ездзілі і айчынныя юрысты. З усяго гэтага можна зрабіць выснову, што рэальнай дыпламатычнай працай цяпер на Беларусі займаецца якраз беларуская апазіцыя, а не ўлады.

***– Зараз наступае лета, час, калі палітычная актыўнасць спадае. Чаго чакаць пасля «Гарачай восені-2000»?***

– Восеньскія і вясновыя акцыі апазіцыі, на мой погляд, цалкам нармальная з'ява, таму што як бы дыктатура ні спрабавала зламіць волю беларускага народа да дэмакратыі і свабоды – ёй гэта не ўдаецца. Акцыі безумоўна будуць праводзіцца: будзе праведзены Кангрэс дэмакратычных сілаў, будуць працягвацца візіты за мяжу. А мэты застаецца ранейшыя – захаванне незалежнасці Беларусі, барацьба за правы і свабоды беларускіх грамадзянаў. Свет зацікаўлены ў гэтай барацьбе, асабліва пасля заявы Лукашэнкі аб стварэнні на Беларусі вялікай ваеннай групоўкі, што прывяло б да дэстабілізацыі становішча ў Еўропе ў цэлым. У гэтых адносінах Еўропа і ЗША – нашыя адназначныя партнёры.

**Гутарыў Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**



На сустрэчы з Джэсі Хэлмсам і Кэці Фіцпатрык

# Беларусь вновь оказывается на Арабском Востоке

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**Вице-премьер, министр иностранных дел Беларуси Урал Латыпов вновь совершит визит в ближневосточный регион. На 5 июня намечено начало его рабочего визита в Ливию. За более чем за год, как У.Латыпов возглавляет внешнеполитическое ведомство, им были совершены поездки, с главой государства и самостоятельно, в целый ряд стран Арабского Востока – Египет, Сирию, Кувейт, Объединенные Арабские Эмираты, Йемен. Посещал вице-премьер также и Израиль.**

Не секрет, что в наращивании белорусского экспорта, как главной задачи в работе МИД Беларуси, ставка делается на поставки некоторых видов продукции бывшего советского ВПК и запчастей военной техники, которой в данном регионе мира еще предостаточно. Многомиллиардные закупки у бывшего СССР осуществлял и режим Муамара Каддафи, который властвует уже не один десяток лет.

Известно, что из-за обвинений в пособничестве международному терроризму Ливия находится в американском списке стран-изгоев, к которым применяются экономические санкции. Правда, с неделю назад, Вашингтон объявил о некотором смягчении режима санкций в отношении Триполи. И интерес к нефтедобывающей и вооружающейся Ливии стал расти.

В Социалистическую Народную Арабскую Джамахирию – таково официальное название страны – едет внушительная делегация, которую возглавляет глава МИД Беларуси. Предполагается, что на протяжении 4 дней представители белорусских предприятий, некогда входивших в советскую оборонку, а сейчас выпускающих продукцию двойного назначения, будут пытаться заключить выгодные контракты. По неофициальной информации, некоторые проекты контрактов вызывают ревностное отношение российских союзников. Москва сама спешит к «валютному пирогу», которым может стать Ливия после, как ожидается, скорой отмены международных санкций.

Интерес к данному визиту Урала Латыпова вызывает и следующие обстоятельства. До сих пор на официальном уровне не была опровергнута или прокомментирована информация некоторых российских СМИ о том, что Беларусь «засекли» с продажей вооружений Ливии, которое затем оказалось в Чечне. Якобы это явилось одной из причин того, что Москва потребовала ужесточения контроля за передвижением военной техники по белорусской территории.

Вполне вероятно, что во время визита белорусской делегации ее глава У. Латыпов обсудит и конкретную дату официального визита А.Лукашенко в Джамахирию. Как говаривал когда-то экс-глава МИД РБ незабвенный профессор И.Антонович: «Мы едем туда, где реагируют на наши пульсации». Может быть он имел ввиду конвульсии? ■



**АД РЭДАКЦЫІ**

## Улады пільна адсочвалі паездку апазіцыі ў Амерыцы

Незадаволенасць ёй вылілася спачатку ў ноту беларускай амбасады ў Вашынгтоне, потым – у заяву МЗС Беларусі. Надта, відаць, не спадабалася, што апазіцыянеры былі прынятыя «кіраўніцтвам некалькіх камісіяў Палаты прадстаўнікоў і Сената, у Дзяржаўным дэпартаменце і Савеце нацыянальнай бяспекі ЗША». А заканадаўчую ініцыятыву сенатара Дж. Хелмса аб дапамозе дэмакратычным сілам Беларусі МЗС расцаніў як умяшальніцтва ва ўнутраныя справы нашай краіны.

Яшчэ больш рэзка адрэагаваў А.Лукашэнка. Выступаючы перад удзельнікамі «дыялога», паведаміў, што «крайняя апазіцыя шукае грошы на звяржэнне «нелегітымнай улады» і гэта «знойдзе ацэнку ў Савеце бяспекі Беларусі» – мусіць, каб «ураўнаважыць» наведванне Савета нацыянальнай бяспекі ЗША.

Гэтыя заявы не засталіся незаўважанымі: 30 траўня на брыфінгу ў Дзярждэпартаменце ЗША намеснікам прэс-сакратара Філіпам Рыкерам было заяўлена: «Які-небудзь пераслед гэтых людзей, звязаны з іх сустрэчамі ў Вашынгтоне, можа стаць сур'ёзнай памылкай» і «больш супрацьстаяць высілкам па ўзнаўленні законнага дэмакратычнага працэсу ў Беларусі. Мы настойваем, каб рэжым Лукашэнкі паклаў канец палітычнаму крызісу ў Беларусі праз рэальны дыялог з апазіцыяй, вынікам якога сталіся б сумленныя і свабодныя выбары».

Зразумець непакой уладаў можна: за шэсць гадоў дзяржаўныя чыноўнікі не здолелі наладзіць гэткіх адносінаў з ЗША. Апазіцыя, якая лёгка знаходзіць агульную мову ў высокіх кабінетах магутнай дзяржавы, не можа не карыстацца падтрымкай у сябе на радзіме.

# Планы пераменіліся – «дыялог» уладзе па душы

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

У прыватнасці, ён раскрытыкаваў паездку групы апазіцыйных палітыкаў у ЗША: «Прадстаўнікі крайне радыкальнай апазіцыі за акіянам... яны думаюць пра грошы... на звяржэнне існуючай «нелегітымнай улады». Што ж, мы гатовыя і да такіх выклікаў. У бліжэйшы час такая пазіцыя знойдзе ацэнку ў Савеце бяспекі нашай дзяржавы. Па меншай меры, спакойна на такія рэчы глядзець нельга».

А.Лукашэнка распавёў таксама пра ўсё большае міжнароднае прызнанне «дыялога», у тым ліку – і Арганізацыяй па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. Каб пацвердзіць гэта, ён даў слова старшыні Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Хансу-Георгу Віку. Спадар Вік зачытаў заяву, якая ўтрымлівала «крытычныя» патрабаванні да Беларусі: уключэнне даверaных асобаў ад палітычных партыяў у склад Цэнтрвыбаркама і іншых выбарчых камісіяў, забеспячэнне празрыстасці выбараў і вызначэнне статусу назіральніка, доступ апазіцыйных партыяў да электронных СМІ, пашырэнне паўнамоцтваў новага парламента, а таксама ўстанаўленне «перыяду міру» напярэдадні выбараў – г.зн. спыніць пераслед грамадзянаў па палітычных матывах і дазволіць беспераШкоднае правядзенне дэманстрацыяў і партыйных мітынгаў.

Толькі на гэтых умовах, па словах Х.-Г. Віка, Захад пагодзіцца прыслаць на выбары сваіх назіральнікаў. Еўропа і ЗША змогуць прызнаць новы парламент легітымным, толькі калі выбары ў Беларусі будуць свабоднымі, дэмакратычнымі і справядлівымі.

Выступ спадара Віка нечакана выклікаў вельмі нервовую рэакцыю А.Лукашэнкі. Ён пачаў крычаць на кіраўніка місіі і кідаць яму абвінавачванні. Са словаў Аляксандра Лукашэнкі, у прыватнасці, вынікала, што калі б не ён і не ягоныя сакрэтныя перамовы з Х.-Г. Вікам, то былы прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір атрымаў бы прысуд не тры гады ўмоўна, а 5 альбо нават 15 гадоў за кратамі. «Пакланіцеся Сукалу (Валянцін Сукала – старшыня Вярхоўнага суда Беларусі. – **Р.П.**) і суддзям, што вялі той працэс!» – пажадаў А.Лукашэнка.

Тым не менш, А.Лукашэнка паабяцаў правесці выбары «так, каб не толькі сп.Вік, але і камар носа не падточыў». «Галоўным вынікам усёй нашай сумеснай, вялікай працы мусіць стаць правядзенне свабодных, дэмакратычных, прызнаных міжнароднай супольнасцю парламенцкіх выбараў. Вы хочаце, як вы кажаце, справядлівых выбараў. Я хачу таго ж – іншага не будзе, яго проста не дадзена. Бо я занадта паважаю свой народ, і здзекавання над ягоным сумленнем не пацярплю», – заявіў Аляксандр Лукашэнка.

Насамрэч мэты ў яго зусім іншыя. Калі Захад зноў не прызнае новаабраны парламент, то гэта будзе вельмі істотным правалам на знешнепалітычным накірунку. Сябраваць з Захадам усё ж трэба – гэта А.Лукашэнка добра разумее. Але і цалкам адмовіцца ад сваёй пазіцыі, пайсці на ўсе ўмовы міжнароднай супольнасці для яго немагчыма. Таму робіцца намаганні імітаваць тую дзейнасць, якую ад яго патрабуюць. Захад чакае рэальных перамоваў – праводзіцца дэкаратыўны кансультатыўны дыялог, патрабуецца эфір для апазіцыі ў электронных СМІ – «Панарама» на паўхвіліны выпускае на экран С.Шушкевіча і г.д. Калі ўсё будзе працягвацца такім жа чынам, то няма чаго чакаць і ад «удасканалення» Выбарчага кодэкса. Ён застанецца прынцыпова такім жа непаўнавартасным – адбудуцца толькі дробныя змяненні.

Як паведаміў журналістам прэзідэнцкі памочнік Сяргей Посахаў, папраўкі да яго мусяць быць прынятыя не пазней за 25-27 чэрвеня, інакш яны не будуць дзейснымі падчас восеньскіх выбараў. Затое А.Лукашэнка паабяцаў паўплываць на дэпутатаў палаты прадстаўнікоў, каб тыя не марудзілі з прыняццем паправак і зрабілі гэта «за 1-2 дні». Ён нават сказаў, што папярэдне дамовіцца з кіраўніцтвам свайго парламента – каб гарантаваць поспех. ■

